### 25 САКАВІКА У НЬЮ ЕРКУ

У гэтым годзе сьвяткаваньне 25 Сакавіка адбылося у Нью Ерку вельмі урачыста.

Пасьля малебену адпраўленага у Беларускай Хатцы айцом Данілюком, у спэцыяльна нанятай вялікай залі сабралося у сьвяточным настроі больш 300 асобаў. Акадэмію адчыніў старшыня БАЗА інж. М. Гарошка, які у кароткай прамове адцеміў значаньне Сьвята. Пасьля прамовы спадара старшыні выступалі з прывітаньнямі прадстаўнікі славацкага і казацкага народаў, а таксама былі адчытаныя прысланыя прывітаньні, паміж іншым ад епіскапа Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы Васіля, гэнэральнага консуля Летувы і гэн. консуля Эстоніі.

Пасьля прывітаньняў зьмястоўны рэфэрат прачытаў рэд. А. Адамовіч, які паміж іншым адзначаў зьбежнасьці у дэклярацыі Амэрыканскай Незалежнасьці і з Устаўнай Грамаце.

У мастацкай частцы акадэміі выступаў мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп. камп. А. Каптуровіча, які у даволі кароткі час патрапіў паставіць хор. Апрача цэлага мяшанага хору выступалі яшчэ са складу хору жаночае трыо і дзявочы ансамбль.

У вокальнай частцы выступала добра ведамая беларускаму грамадзянству опэрная артыстка Барбара Вержбаловіч, якая як заўсёды зьбірала буру воплескаў. Сабраныя былі таксама сьветкамі першага выступу на беларускім грунце опэрнай артысткі Надзеі Гродэ. Прыгожы голас і выгляд спаткаўся з авацыйным спатканьнем сабраных. Трэба таксама адзначыць добрую беларускую вымову спадарыні Гродэ. Маем надзею, што будзем яшчэ ня раз бачыць і чуць сп. Гродэ на беларускіх імпрэзах.

З асабліва цёплым прыёмам спаткалася мэлёдэклямацыя у мастацкім выкананьні сп. Натальлі Кушаль. Аутарамі гэтае мэлёдэклямацыі пад назовам: "Ен прыйдзе гэты дзень" зьяўляюцца сп. п. Арсеньнева і сп. камп. М. Куліковіч. Пры фортэп'яне кампазытар М. Куліковіч. Большасьць песьняў сьпяваных на акадэміі была у ягонай мастацкай апрацоўцы.

З дэклямацыямі выступалі сп. і сп. Каляды і Сп. Каханоўская.

Учасьніцы хору выступалі у народных строях. Нажаль пры браньні галавы былі не ўласьцівыя беларускаму народнаму строю, часткова вышываныя нават колерамі не ужыванымі у беларускай народнай вышыўцы, як зялёным і фіялетавым. Не пасуюць таксама да беларускага народнага строю завушніцы партарыканскага тыпу, што мелі некаторыя спадарыні.

Арганізатарам акадэміі і учасьнікам належыцца ад беларускага грамадзянства падзяка.

### ІЗ СКАУЦКАГА ЖЫЦЬЦЯ У НЮ ЕРКУ

Дня 17 сакавіка 1951 г. у Беларускай Хатцы, адбылася цэрэмонія заснаваньня Першай Беларускай Скаўцкай Групы ў Нью Ерку. Усё патрэбнае для легалізацыі групы было зьдзейснена на працягу колькі тыдняў. Апеку над скаўцкаю групаю прыняло на сябе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗГА, стварыўся Камітэт адказны за працу групы, які даручыў вясьці яе скаўтмайстру М. Тулейку.

У праграму цэрэмоній увайшлі: прачытаньне Скаўцкага Права і Прысягі, скаўцкія і нацыянальныя песьні, прамовы прадстаўнікоў і гасьцей, уручэньне групе "чартару" і скаўцкіх легітымацыяў, раздача ліляек. Асабліва сымбалічным мамэнтам цэрэмоній было ўручэньне групе беларускага скаўцкага сьцягу, што быў перавезены із Нямеччыны ў ЗГА. Апякун беларускіх скаўтаў, Сп. Гэнэрал Ф. Кушэль, які ўручаў групе сьцяг, горача заклікаў беларускіх скаўтаў годна ісьці далей па скаўцкім шляху пад старым і пачэсным беларускім скаўцкім сьцягам. На заканчэньне цэрэмоній, скаўты паказалі прысутным у колькі гульнях, як яны ўмеюць памятаць тое, што бачаць, як яны ўмеюць разгадваць "што сталася" паводле сьлядоў і г. д.

Прысутныя, прадстаўнік амэрыканскіх скаўцкіх уладаў, Скаўцкі Камітэт, бацькі, госьці і скаўты вынясьлі із цэрэмоній заснаваньня Першай Беларускай Скаўцкай Групы у Нью Ерку як найлепшае ўражаньне, а ўспамін з удала праведзенай ўрачыстасьці астанецца у ўдзельнікаў яе назаўседы. Напагатове!

#### Аустралія

29 студзеня у Аустраліі адбыліся сьвяткаваньні 50 угодкаў аб'еднаньня усіх тэрыторыяў. У сувязі з гэтым адбыліся усюды маніфэстацыі у якіх прыймалі удзел і новыя аўстралійцы, былыя ДП. Кожная нацыя йшла асобнай групай са сваім нацыянальным штандарам. У адным з гарадоў выбралі па аднэй прадстаўнічцы ад кожнай нацыі і везьлі іх на удэкараваным самаходзе, седзячых пад штандарамі сваіх краінаў. Беларускай прадстаўнічкай была сп. Сіткоуская. Аустралійцы выказывалі вялікае заінтэрэсаваньне гэтымі групамі і рабілі шмат фатаграфіяў. **В.**

#### Саўт Рывэр

Зарганізаваны у маі 1950 году Саўт-Рывэрскі аддзел БАЗА стала павялічваецца. З шаснаццацёх закладчыкаў колькасьць сяброў аддзелу ўзрасла ў канцы 1950 да 38 сяброў, а на пачатку новага году дасягае ужо поўсотні. Апрача жыхараў Саўт-Рывэру да аддзелу належаць і Беларусы з блізкага Нью-Брансвігу.

Дзейнасьць мясцовага аддзелу БАЗА абмяжовывалася, амаль выключна, арганізацыйнай і фінансавай галінай. У гэтай апошняй аддзел у Саўт-Рывэры можа пахваліцца значнымі асягненьнямі. Апрача сяброўскіх складкаў, сябры сабралі на рожныя мэты суму 443 доляраў. З гэтае сумы прыпадае 28 даляраў на падтрымку беларускіх радыё перадачаў у Чыкаго, 97 даляраў на падтрымку беларускіх газэтаў (Бацькаўшчына, Беларускі Эмігрант, Беларус), 17 даляраў на дапамогу цэнтралі БАЗА, 147 даляраў на сяброўскую узаема дапамогу, 104 д. на пакрыцьцё выдаткаў Прэзыдэнта Рады БНР і 40 д. на калядныя падарункі перамяшчэнцам у Нямеччыне і Аўстрыі.

#### Чыкаго

Дня 4 лютага заснаваны скауцкі круг пад назовам "Пагоня". Кіраўніком кругу зьяўляецца а. Захаркевіч, сакратаром І. Пілецкая, скарбнікам М. Кучура і скаўтмайстрам В. Пануцэвіч.

#### Лювэн, Бэльгія

Беларускае Студэнскае Згуртаваньне налічывае у гэтым годзе 29 асобаў. На агульным сходзе Беларускага Студэнскага Згуртаваньня старшынею быу выбраны сп. М. Жылік, заступнікам старшыні — Ч. Кукель, сакратаром В. Шчэцька, скарбнікам У. Цьвірка і вольным сябраю Я. Запруднік. Беларускае Студэнскае Згуртаваньне годна рэпрэзэнтуе беларускую справу у Бэльгіі.

Лювэн Бэльгія. У Бэльгіі паўстау цэлы рад аддзелаў Арганізацыі Беларускіх Камбатантаў. У канцы мінулага году быў скліканы першы агульны зьезд, на якім быў выбраны сталы урад. Старшынею быу выбраны сп. Т. Цімафейчык.

### АГЛЯД ВЫДАНЬНЯЎ

"Новае жыцьцё" Нр. 6 Сыднэй, Аўстралія.

Часопіс выражае сваю радасьць, што ў Аустралію прыехаў епіскап Расейскай Зарубежнай Царквы, для абслужываньня зарубежнікаў. Часопіс выражае далей свае незадаваленьне з таго, што газэта Бацькаўшчына выступае з абаронаю нашых правоў супроць летувісаў і украінцаў. Даведываемся таксама з часопісу, што ў складзе ураду зарубежніцкага Беларускага Аб'еднаньня у Аўстраліі, што выдае гэты часопіс, адбылася зьмена, бо на месца выбыўшага з ураду сп. Раманоўскага у склад ураду увайшоў былы кандыдат сп. Малецкі.

"Веда" Нр. 1 Навукова-літаратурны часапіс. Выдае Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Ф. Скарыны.

Часапіс зьмяшчае цэнны артыкул сп. др. Я. Станкевіча пра беларускае слоўніцтва у расейскім слоўніку В. Даля. Апрача артыкулу др. Станкевіча у часопісе зьмешчана хроніка Таварыства і цалком непатрэбна зацемка пра вайну у Карэі, бо навуковы часопіс не прызначаны для зьмяшчаньня вестак з бягучых палітычных ці вайсковых падзеяў.

"Бацькаўшчына" Нр. 65. Нямеччына.

У грунтоўным артыкуле пад загалоўкам: Неабаснаваныя прэтэнсіі, газэта даказывае усю бязпадстаўнасьць польскіх прэтэнсіяў на беларускія землі і прапануе зарганізаваць Беларуска-Украінскі Саюз Абароны Земляў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Газэта цалком слушна выступае супроць таго, каб да гэтае акцыі прыцягіваць і летувісаў, дзеля таго што палякі не прэтэндуюць на летувіскую тэрыторыю, а летувіскія прэтэнсіі да Віленшчыны і Вільні зьяўляюцца толькі недасьпелым пладом летувіскіх імпэрыялістычных хаценьняў.

"Беларуская Трыбуна" Нр. 3. Злуч. Дзяржавы Амэрыкі.

З карэспандэнцыі сп. Часлава Найдзюка даведываемся, што летувісы гатовы падтрымліваць тыя народы, якія ня думаюць і ня імкнуцца пасягаць пасьля свайго вызваленьня на не свае землі. Ведаючы, што летувісы лічаць Віленшчыну і Вільню сваімі, дазволім сабе спытацца спадара Часлава Найдзюка:

Як Вам ня сорамна?

"Зьніч" Нр. 2-7. Рым. Беларускі рымска-каталіцкі часопіс. Зьмест каталіцка рэлігійны. Як дадатак да часопісу далучаны пераклад твору Г. Сенкевіча Кво вадіс?, а да апошняга нумару пераклад Эвангельльля.

**"Вольнае Слова" № 4-5 (13-14)**

Бюлетэнь Саюзу Беларускіх Журналістых. Часапіс зьмяшчае цікавы матар'ял пра беларускую партызанскую прэсу. Таксама трэба адзначыць цікавы артыкул пра ангельскае часапісьменства. Часопіс прызначаны толькі для сяброў С. Б. Ж.

Патрыёт № 1 (6) Англія.

Зьмяшчае вельмі цікавую перапіску рэдакцыі з Р. Астроўскім. Нажаль няма адказу на іх сп. Астроўскага, ды відаць іх і наагул ня было. З матар'ялаў часопісу відаць, што зарубежнікі бязпадстаўна закідаючы крывічом палёнафільства самыя падтрымліваюць епіскапа Польскай Праваслаунай Царквы паляка Саву. Часопіс зьмясьціў дэкларацыю Беларускай Народнай Грамады і слушныя крытычныя зацемкі да гэтай дэкляраціі. Праўдападобна дзеля нястачы месца рэдакцыя аграніч ылася толькі некалькіма зацемкамі, хаця іх можна даць да кожнага пункту.

Сп. Асіпчык слушна заналізаваў асьветчаньне БЦР у царкоўных справах, даказаўшы, што Бог карае зарубежнікаў адняўшы ім розум.

Цікава было-б пачуць ці групка, што гуртуецца каля "Патрыёта" уважае, што яе нешта дзеліць ад арганізацыяў Б. Н. Р.?

REFUGEE INTERVIEW PROJECT
HARVARD UNIVERSITY

### ЗВАРОТ ДА НОВАЕ ЭМІГРАЦЫІ

Гарвардзкі Унівэрсытэт распачаў усебаковае студыяваньне савецкае запраўднасьці шляхам апытаньня калішніх савецкіх грамадзянаў. Гэтае дасьледваньне мае на мэце азнаёміць амэрыканскую грамадзкасьць із запраўдным станам рэчаў у Савецкім Саюзе. Ясная рэч, што самай лепшай крыніцай вестак аб тым, як жыве жыхарства Савецкага Саюзу і як папраўдзе функцыянуе савецкі лад, ёсьць сьветчаньне людзей, што нарадзіліся і пражылі большую частку свайго сьвядомага жыцьця ў СССР.

З гэтаю мэтай Гарвардзкі Унівэрсытэт адчыняе свой аддзел у Нью-Ерку, дзе ягоныя прадстаўнікі апытаюць азначаную колькасьць асоб, уцекачоў із Савецкага Саюзу, што жывуць у Нью-Ерку й ваколіцы.

Спадзяемся, што новая эміграцыя дацэніць вялікую вагу заініцыяванага намі дасьледваньня і ахвотна пойдзе нам насустрач у гэтай вялікай і важнай справе.

Апытаньні будуць вясьціся індывідуальна, прычым у пратаколах прозьвішча апытванага фігураваць ня будзе. Нам важна адно, каб чалавек, зь якім мы будзем гутарыць, быў навочным сьветкам таго, аб чым будзе нам апавядаць.

Час затрачаны на інтэрв'ю, а таксама затраты на падарожжы — будуць аплочаны.

Аб сваім жаданьні даць патрэбныя для дасьледваньня весткі прашу паведаміць пісьмова, па ангельску або й на роднай мове, на наступны адрас:

Dr. I. D. London, Director
Harvard Refugee Interview Project
216 West 100 Street
New York 25, N. Y.

## Тое-сее

Сабраліся аднойчы сябры ЗБК каля украінскага народнага дому ў Торонто, каб у нанятым імі пакоі зрабіць пробу танцаў, што мелі ставіць на канцэрце. Дзьвяры дому былі зачыненыя. Пасьля назойлівага стуканьня дзьвяры адчыніліся, а выхіліўшаяся лысая галава заявіла, што сяньня пакой заняты, што іхныя дзеці робяць пробу і што: "калі-б ваш прэзыдэнт быў ласкавы перад тым скамунікавацца з нашым прэзыдэнтам і ваш прэзыдэнт паведаміў нашага прэзыдэнта аб вашай пробе і наш прэзыдэнт даў вашаму прэзыдэнту згоду на такую пробу сяньня, то наш прэзыдэнт цяпер ня меў-бы нічога супраць каб ваш прэзыдэнт разам з вамі зрабіў пробу"...

***

Жыхар ЗША, нейкі містар Бош, быў страшэнна пакрыўджаны. Справа ў тым, што ягомасьць Бош з жонкаю й сынам выбраўся пад апекаю аднэй з экскурсыйных кампаніяў на прагулку ў Рым, дзе яму абяцалі ўсялякія дарожныя й жыльлёвыя выгады. Ані таго, ані другога ня было, а што найгорш, нават не пабачыў Папу Рымскага. Узлаваны містар аскардзіў ашуканскую кампанію на 10.000 даляраў.

***

Як падала адна з радыёстанцыяў, нейкая пані Сасноўская зажадала разводу са сваім мужам па той прычыне, што муж кажнай раніцы будзіць яе а пятай гадзіне... сьвістам чайніка, калі грэе сабе каву на сьнеданьне. Суд прызнаў ёй абсалютную слушнасьць і ўдзяліў разводу.

***

Адзін з высокіх урадоўцаў міністэрства замежных справаў ЗША заявіў, што праз радыёстанцыю "Голас Амэрыкі" патрэбна давесьці расейцам, што Амэрыка ня хоча разьдзелу расейскай імпэрыі, каб гэтым самым зьяднаць сабе сымпатыі расейскага народу. Адначасна, заявіў прадбачлівы палітык, успомнім расейцам, што Амэрыка ніколі да гэтага ня імкнулася, а наадварот: што амэрыканцы ўспамагалі грашыма маладую савецкую дзяржаву і што за часы першай і другой пяцігодкаў дзьве траціны прамысловасьці за Уралам былі пабудаваны дзякуючы амэрыканскай дапамозе й спэцыялістам.

Маладзец, містар палітык!

Успамяні толькі яшчэ, што многа амэрыканскіх інжынераў атрымала маскоўскія ордэны за пабудову "Днепрагэсу", Чэлябінскага і Сьвярдлоўскага камбінатаў, што прадукуюць цяпер танкі й гарматы, якія пасылаюць у Карэю. Не забудзься дадаць, што ў часе вайны між двума эўрапэйскімі бандытамі й рабаўнікамі — Гітлерам і Сталіным Амэрыка дала Расеі матар'ялаў на адзінаццаць міліярдаў даляраў, якіх не атрымала дагэтуль і не атрымае ніколі. Паабяцай, што аддасьцё Карэю, усю Азію, рэшткі небаракі Эўропы, пасьля ўсю Амэрыку з яе гадзіньнікамі й аўтамі (бо нарабаваныя ў Эўропе ўжо паламаліся) — тады напэўна "ўблагатварыцца" расейцаў.